# РУНЬ

газэта беларусаў Літвы

3 жніўня 2000 №33 кошт 1 літ


## МАЯ ПРАДМОВА

*Нічога ня хочу... нічога, нічога —*
*Ні грошай, ні славы, ні шчасьця сьляпога...*

*А толькі ўсё жду я, каб родная мова*
*Хутчэй дачакала свабоднага слова!*

*Пакуль не дождуся багацьця такога —*
*Нічога ня хочу... нічога, нічога!*




Галяш Леўчык. Варшава, 1911

# У БІБЛІЯТЭЦЫ ГАЛЬЯША ЛЕЎЧЫКА

*20 ліпеня споўнілася 120 гадоў з дня нараджэньня беларускага паэта, публіцыста, перакладчыка Гальяша Леўчыка (Ільлі Ляўковіча). Леўчык выдаў толькі адзін зборнік вершаў «Чыжык беларускі» (Вільня, 1912), а пачаў ён друкавацца ў 1907 г. у «Нашай Ніве». Жывучы ў Варшаве, ён сабраў вялікую й каштоўную бібліятэку, у якой былі амаль усе выданьні на беларускай мове. У 1944 г. падчас бамбёжкі гэтая ўнікальная бібліятэка згарэла. «Ён сядзеў на грузавічшы й плакаў,» — успамінае Людвіка Сівіцкая-Войцік (Зоська Верас), каторая пазнаёмілася зь Леўчыкам у Варшаве яшчэ ў 1913 г., а пасьля доўга ліставалася зь ім. Зьмяшчаем тут нідзе раней недрукаваныя ўспаміны пісьменьніцы пра наведаньне ёю Леўчыкавай бібліятэкі:*

«Варшава. 1914 год. Як-жа гэта даўно — роўна 70 гадоў таму. З Гальяшом Леўчыкам спатыкаліся мы кожную нядзелю, а часам і ў будні дзень заходзіў ён да мяне вечарамі. Гутаркам, расказам не было канца... Пазнаёміліся мы зь ім увосені 1913 году, калі я прыехала ў Варшаву на курсы (курсы садоўніцтва, агародніцтва й пчалярства — А. М.). Ён, як шмат старэйшы за мяне, пераважыў усяго, і добрага, і яшчэ больш благога, але й мне было аб чым успомніць і расказаць.

Леўчык хваліўся, што мае вялікую, каштоўную бібліятэку й вельмі хацеў мне яе паказаць. І ня толькі мне, але й нашай супольнай знаёмай Марысі Галубянцы. Паходзіла яна з-пад Вільні зь Неварышак. У той час жыла ў Варшаве, працавала вучыцелькай у школе Вавэльбэрга. Вось мы неяк і дамовіліся зь ёю, што пойдзем у нядзелю вечарам да Леўчыка паглядзець, што ён у сваёй бібліятэцы мае.

Жыў тады Леўчык на вуліцы Леопольдына, 35 кв. 32. Кватэра была, здаецца, на трэцім паверсе. Адзін, даволі вялікі пакой, даўгі, з адным вакном. Пакой здаваўся вузкім, таму што адна ягоная сьцяна была абарудаваная даволі шырокімі паліцамі ад падлогі да столі. І на іх кніжкі, кніжкі, кніжкі... Сапраўды, гэта была вялікая, цікавая й каштоўная бібліятэка. Сабранае было хіба што ўсё, што выйшла з друку ў беларускай мове. Усе гадавікі «Нашай Нівы» ад самага пачатку, «Гоман», некалькі нумароў «Мужыцкай праўды», Багушэвічавы «Дудка» й «Смык», «Сялянка» Дуніна-Марцінкевіча ды іншыя творы пісьменьніка, Купала, Колас, усё, што выдала суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца», усе тамы «Беларускага народу» («Lud Bialoruski») М. Федароўскага, падараваныя Леўчыку аўтарам. Усе паліцы былі ўпрыгожаныя партрэтамі пісьменьнікаў, паштоўкамі, краявідамі. Шмат што было купленае, але й шмат падараванае аўтарамі ды знаёмымі.

Тыя кнігі, што стаялі ніжэй, мы з Марысяй аглядалі самі, а тыя, што высока, Леўчык здымаў і паказваў сам. Не адну гадзіну гэты занятак забраў нам. Нарэшце Гальяш сказаў: «Ну й замучыў я вас... Пара адпачыць!» Мы адмаўляліся, ня хочачы рабіць клопату, але былі змушаныя згадзіцца. Пілі добра прыгатаваную гарбату, і да яе было сёе-тое смачнае. Пасьля Леўчык прапяяў нам пару песьняў пад акампаніямэнт гітары. Голас меў прыгожы. Пяяў і граў умела. Разьвіталіся мы зь ім толькі позна вечарам.»



* * *

Ŭmierci nia štuka, a što žywiem!
— Tak rozum nam hamonić, —
I tak kališ ŭ piasku zhnijem...
Ŭmierci nia štuka, a što žywiem! —

Ad śmierci my nia ŭciačem —
— Jana i tak dahonić...
Ŭmierci nia štuka, a što žywiem!
Tak rozum nam hamonić. —

10/23/VII-1914 r.
Warszawa

Halaš Leŭkowič

Рукапіс вершу Гальяша Леўчыка з альбому Л. Сівіцкай. Варшава, 1914



Рамуальд Зімніцкі, Гальяш Леўчык, Людвіка Сівіцкая. Варшава, 1914




### ВОЛАТ

*Волат я высокі: ростам аж пад неба!*
*Ў ботах-«хуткаходах» міль па сем ступаю,*
*Галавою ў шапцы хмары я кранаю,*
*Прыкурыць ад сонца люльку мне патрэба!*

*Рэйкамі чыгунак сьвет я абкружаю,*
*Аб мае абцасы паравозы б'юцца,*
*Горы і курганы, быццам мякіш, гнуцца,*
*Караблі, як рыбкі, з мора выкідаю.*

*Боты-«хуткаходы»век не падзяруцца;*
*Із слупоў зладжу я тэлеграфных горбу,*
*Забяру ў пляцёну лыкавую торбу —*
*Нібыта запалкі ў хаце прыдадуцца!*

### ЗАЯВА

Беларуская грамадзкасьць Літвы занепакоеная становішчам на Бацькаўшчыне.

Адбываюцца масавыя парушэньні правоў чалавека. Праводзяцца жорсткія рэпрэсіі супраць палітычнай апазыцыі існуючаму рэжыму. Усе электронныя СМІ знаходзяцца ў руках уладных структураў, і дэмакратычныя сілы краіны ня маюць доступу да іх і ня могуць данесьці грамадзтву праўдзівую інфармацыю.

Палітычныя лідары змушаныя пакідаць Беларусь і знаходзіць прытулак за мяжою, каб не прапасьць бясьследна, як гэта здарылася з В. Ганчаром, Ю. Захаранкам, А. Красоўскім.

7 ліпеня зноў бясьследна прапаў грамадзянін РБ журналіст Дзімітры Завадзкі. І гэта ў краіне, дзе колькасьць міліцыі й службы бясьпекі шмат разоў большая, чым у суседніх краінах. Немагчыма дапусьціць, што ўсё гэта адбываецца бязь ведама спэцслужбаў РБ.

Мы заклікаем міжнародную супольнасьць спрыяць вяртаньню Беларусі на шлях дэмакратычнага развіцьця!

*Прынята на Радзе ТБК*
**Вільня, 13 ліпеня 2000 г.**

## 10 гадоў дэмакратычных рэформаў

Так называўся сэмінар для беларускіх журналістаў, які праходзіў у Вільні з 25 па 30 чэрвеня. Арганізатарамі імпрэзы былі Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя для Беларусі» і Цэнтар «Супольнасьць» зь Менску. Фінансавую падтрымку аказалі Амэрыканскі цэнтар у Вільні ды Фонд адкрытай Літвы. Для таго, каб у «сэмі-нарыстаў» (а гэта пераважна былі журналісты з рэгіянальных беларускіх выданьняў) склаўся ўсебаковы вобраз сучаснай Літвы, арганізатары ў якасьці «настаўнікаў» запрасілі прадстаўнікоў самых розных палітычных плыняў, як «правага» (дэпутат Сойму ЛР Рымантас Плейкіс, лідар Дэмакратычнай партыі Саўлюс Печалюнас ды інш.), так і «левага» накірунку (лідэр сацыял-дэмакратаў Літвы Віцяніс Андрукайціс, былы міністар эканомікі (з часоў прэзыдэнцтва Бразаўскаса) Юлюс Весялка). Беларускія журналісты мелі магчымасьць даведацца пра дзейнасьць буйнейшых літоўскіх газэтаў «Летувос рытас» і «Летувос айдас», пазнаёміліся з умовамі працы на Нацыянальным радыё й тэлебачаньні Літвы, наведалі студыю незалежнага Балтыйскага тэлебачаньня. Пра тое, як суадносяцца ў Літве СМІ і заканадаўства, распавёў старшыня Саюзу журналістаў Літвы Рымгаўдас Эйлунавічус. Безумоўна, адной з самых цікавых была сустрэча з Старшынём Вярхоўнага Савету РБ Сямёнам Шарэцкім, а пра дзейнасьць Старшыні Сойму ЛР Ландзбергіса распавяла ягоная прэс-аташэ спн. Ларэта Закаравічане.

Не былі забытыя й культурныя мерапрыемствы. Цікавай і зьмястоўнай была сустрэча ў Польскай галерэі «З-над Віліі», дзе якраз праходзіла выстава віленскага беларускага мастака Алеся Поклада. Тут перад гасьцямі выступіла гаспадыня галерэі спн. Ванда Мячкоўска, пяяла вядомая зьбіральніца й дасьледчыца фальклёру Віленскага краю Марыя Крупавес. А сп. Рамуальд Мячкоўскі ў свой чарод распавёў аб праблемах выданьня польскай газэты «З-над Віліі», якая ў сілу розных абставінаў была ператвораная ў квартальнік.

Праграма сэмінару была вельмі насычаная. А завяршылася яна паездкаю ў Трокі, куды «сэмінарыстаў» запрасіў выдаўца й рэдактар газэтаў «Ворута» і «Траку жаме» Ёзас Верцінкявічус. Госьці наведалі славуты Троцкі замак. Больш падрабязна зь некаторымі матар'яламі сэмінару наш чытач можа пазнаёміцца на ст. 4.

**Алег Аблажэй**

## У нямецкім горадзе Дан

пабывала студэнтка беларускай катэдры пры Віленскім пэдунівэрсытэце Інга Алітойц. Яна патрапіла ў гэтае жывапіснае горнае мястэчка, якое месьціцца на самай нямецка-француская мяжы, разам зь юнакамі й дзяўчатамі з многіх краінаў Эўропы. На працягу свайго двухтыднёвага побыту ў Нямеччыне моладзь прыбірала і ўпарадкоўвала мясцовыя могілкі, дзе пахаваныя воіны, палеглыя падчас 2-ой Сусьветнай вайны. Пасьля абеду пачыналіся цікавыя экскурсіі ў горы і ў нямецкія ды французскія гарадкі. У наступным нумары газэты Інга ды іншыя нашыя студэнты, што яшчэ адпачываюць у Нямеччыне, распавядуць пра свае падарожжы й вандроўкі, каторыя сталіся магчымымі, дзякуючы стараньням прафэсара Вольнага ўнівэрсытэту ў Бэрліне Ёганеса Шлоотца й сяброў Віленскага цэнтру грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя для Беларусі».

**А. М.**

## Выставу ў Эстоніі

наладзіла аб'яднаньне мастакоў-беларусаў Балтыі «Маю гонар», якое ўзначальвае вядомы рыскі мастак Вячка Целеш. Ён-жа зьяўляецца й «бацькам»



*Маргарыта Астравумава. «Кветкі восені». Пастэль. 1998*

ідэі згуртаваньня для сумеснай дзейнасьці беларускіх мастакоў, што жывуць у Літве, Латвіі ды Эстоніі. Выстава адкрылася 10 ліпеня ў эстонскім горадзе Іыхві. Ініцыятарам і арганізатарам выставы гэтым разам была дырэктар Іыхвіскай мастацкай школы Маргарыта Астравумава. Экспазыцыя была разьмешчаная ў выставачнай зале школы, пры якой, дарэчы, створаныя ўсе ўмовы для пражываньня гасьцей, — а тут іх бывае шмат і зь Беларусі, і з краінаў Балтыі. На адкрыцьці прысутнічалі гарадзкое кіраўніцтва Іыхві, прадстаўнікі нацыянальных суполак, сярод якіх адна з наймацнейшых — БЭЗ (Беларуска-эстонскае згуртаваньне). Літву на выставе прадстаўлялі мастакі зь Вільні Алег Аблажэй і Крысьціна Балаховіч. Выстава была цёпла прыйнятая гледачамі, а самі мастакі ўжо жывуць далейшымі плянамі: чарговая выстава мае адбыцца ў Менску й будзе прымеркаваная 10-годзьдзю дзейнасьці аб'яднаньня «Маю гонар».

**Крысьціна Балаховіч**

## 120 пісьменьнікаў

з 45 эўрапэйскіх краінаў удзельнічалі ў «Праекце стагодзьдзя» — у творчым падарожжы па Эўропе. Наведалі яны й Вільню. Сярод пісьменьнікаў была й



паэтка з Швэцыі Інга-Ліна Ліндквіст, дачка нашага віленскага мастака Уладзімера Кузьменкі. Яна, разам зь беларускімі пісьменьнікамі Вольгай Іпатавай, Леанідам Дранько-Майсюком, Андрэем Федарэнкам наведала Беларускую школу імя Ф. Скарыны, выступіла там зь вершамі. Імя Інгі-Ліны Ліндквіст вядомае ня толькі ў Швэцыі, але і ў Расеі, і ў сьвеце. Яна лаўрыят многіх літаратурных прэміяў Швэцыі.

**Валянціна Грыневіч**

## Выстава твораў П. Сергіевіча

была адкрытая 9 ліпеня ў дамках Таварыства беларускай культуры. Працы нашага знакамітага віленскага мастака (пераважна эскізы, рысункі), што захоўваюцца ў архіве Таварыства, выклікалі вялікае зацікаўленьне прысутных на адкрыцьці выставы.

**Павал Саўчанка**

## Юбілейная выстава

з нагоды 100-годзьдзя з дня нараджэньня Пётры Сергіевіча адкрылася 10 ліпеня намаганьнямі Згуртаваньня беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у Літве й пры дапамозе дырэктара Нацыянальнага мастацкага музэю Літвы сп. Рамана Будрыса й супрацоўнікаў беларускай амбасады ў ЛР. Перад адкрыцьцём выставы шматлікія прадстаўнікі віленскай беларускай грамады адведалі дом, у якім жыў мастак, на Антокалі, усклалі кветкі да мэмарыяльнай дошкі, наведалі Антакальскія могілкі, дзе пахаваны Пётра Сергіевіч. У 16.00 у галярэі «Амацінінкай» быў наладжаны круглы стол «Жыцьцё й творчасьць Пётры Сергіевіча», рэй на якім вёў віленскі мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі. Былі на выставе й тры працы Сергіевіча зь Менску. Прывёз іх галоўны захавальнік Нацыянальнага музэю ў Менску Мікалай Пагарноўскі.




**Валянціна Грыневіч**





ЛЮСТРАДЗЕН

# Вандроўка ў Вільню

Мяркую, што гісторыя Брацтва праваслаўнай моладзі ў гонар Канстанціна Іванавіча Астрожскага пачынаецца менавіта зь леташняй верасьнёўскай вандроўкі пад Воршу. Вось ужо некалькі гадоў, як напачатку восені з розных куткоў Беларусі сюды зьбіраюцца студэнты, школьнікі, гісторыкі, паэты, барды, каб узгадаць падзеі славутай перамогі беларуска-літоўскага войска пад кіраўніцтвам гетмана К. Астрожскага над войскам маскоўскіх ваяводаў.

...Помню свае ўражаньні, калі ўпершыню пабачыла ценькую палоску ракі Крапіўны, што ўпадае ў Дняпро. Бульбяное поле, сухая трава, драўляны крыж на невялічкім узгорку, маленькія хаткі на працілеглым беразе. Пахне дымам, малаком і смалой, у ціхіх водах адбітак маладзіка. Некалькі стагодзьдзяў назад, пераправіўшыся цераз Дняпро, на гэтым мейсцы размясьціў сваё войска гетман ВКЛ Канстанцін Астрожскі. На Воршу рушылі аб'яднаныя маскоўскія палкі, за плячыма якіх застаўся Смаленск, абстраляны з гарматаў, аглушаны стогнамі жанчынаў і плачам дзяцей, асірацелы... Ад бітвы пад Воршай залежыў лёс усходніх земляў ВКЛ.

Таго вечара, калі мы трапілі на гэтае мейсца, ля драўлянага крыжа каталіцкі сьвятар служыў паніхіду па ўсіх палеглых у бітве 8 верасьня 1514 г., у выніку якой Усходняя Беларусь была вызваленая ад расейскіх войскаў. А перад гэтым усе ахвотныя маглі прысутнічаць у адным з варшанскіх касьцёлаў, дзе пасьля імшы каталіцкі сьвятар сказаў узьнёслыя словы пра жыцьцё й подзьвіг Канстанціна Астрожскага. (Дарэчы, менавіта ў гэтым касьцёле знаходзілася рэпрадукцыя зь вядомай літаграфіі «Бітва пад Воршай» мастака М. Басалыгі). І зрабілася вельмі балюча, што памяць аб вялікім гетмане ніякім чынам не ўшаноўваецца ў сучаснай праваслаўнай царкве, хоць князь Канстанцін Астрожскі да апошніх сваіх дзён заставаўся менавіта праваслаўным вернікам. І гэта ён пасьля перамогі пад Воршай аднавіў у Вільні дзьве царквы, которыя знаходзіліся ў заняпадзе. (Адна з гэтых цэркваў асабліва шануецца праваслаўнымі вернікамі, бо яна пабудаваная на тым самым мейсцы, дзе калісьці прынялі сьмерць тры віленскія пакутнікі Антоні, Іаан і Яўстафі).

У нашае Брацтва прыйшла й тая моладзь, што мела досьвед уцаркоўленьня, аднак гісторыяй Беларусі асабліва не цікавілася, і тая, якая праваслаўнай была толькі паводле хрышчэньня, затое добра ведала імя й заслугі Канстанціна Астрожскага ды шанавала памяць аб ім. Многія зь іх пасьля гутарак са сьвятарамі на нашых сустрэчах адкрылі для сябе ўсю прыгажосьць праваслаўнай веры і ўпершыню дакрануліся таінстваў споведзі й прычасьця – галоўных момантаў хрысьціянскага жыцьця. Для тых-жа, хто быў знаёмы зь беларускай гісторыяй толькі з школьных падручнікаў, вельмі карысныя былі брацкія вечарыны, прысьвечаныя Ларысе Геніюш, Уладзіміру Караткевічу, Міколе Равенскаму, супольны прагляд «Тутэйшых» у Нацыянальным тэатры імя Я. Купалы.

Адным з самых яскравых момантаў жыцьця нашага брацтва можна лічыць вандроўку ў Вільню. Мы маліліся ў храме, дзе знаходзяцца мошчы Сьвятых віленскіх пакутнікаў, наўвоч пабачылі адноўленыя калісьці К. Астрожскім храмы (адзін зь якіх, на жаль, належыць цяпер украінскім уніятам), наведалі могілкі, дзе пахаваныя Ядзьвігін Ш. і Ф. Аляхновіч. Вандроўка ў Вільню змусіла нас глядзець на некаторыя рэчы па-іншаму. Калі на звычайнай зялезнай агароджы маста бачыш выяву Пагоні, калі падыходзіш да абраза Маткі Боскай Вастрабрамскай, калі сузіраеш шматлікія крыжы віленскіх сабораў, – тады толькі пачынаеш разумець, што кожны каменьчык, кожная цаглінка ў муры дыхаюць сваёй асаблівай гісторыяй, якой няма ў сёньняшняй беларускай сталіцы. Сапраўды няма? Ці, можа, мы адмовіліся ад яе? Адмовіліся, уважаючы сябе спачатку савецкім народам, а потым невядома кім, зрабіўшы свой выбар чатыры гады таму назад?

Нашае Брацтва падчас абвінавачваюць у тым, што мы імкнемся да палітычнай або нацыянальнай прапаганды ў межах царквы. Але гэта ня так. Памятаю, у Беластоку адзін беларус неяк сказаў нам: «Вельмі шкада, што праваслаўная царква ва Ўсходняй Польшчы ніякім чынам не падтрымлівае нацыянальную ідэю сярод тутэйшых беларусаў. І яны перастаюць увогуле ўспрымаць сябе прыналежнымі да беларускае нацыі. Пабраўшыся шлюбам з палякамі, вельмі лёгка пераходзяць у каталіцтва. Такім чынам праваслаўная царква губляе сваіх прыхаджанаў».

Пасьля вандроўкі ў Вільню мне давялося пачуць ад нашага братчыка наступнае: «Ведаеш, толькі тут, судакрануўшыся з жывой гісторыяй, я зразумеў: калі Канстанцін Астрожскі з 30-тысячным войскам выйшаў супраць 80-тысячнага, ён свой асабісты лёс, лёс свайго войска і, наогул, лёс народу даверыў Богу. Калі й мы будзем з Богам, няўжо не пераможам усе нягоды, якіх шмат у нашай краіне? Асабіста мне згадка аб той перамозе надае вялікую прагу жыцьця!»



Сёньня значная колькасьць беларусаў аддае перавагу не традыцыйным рэлігіям, а тым, што зьявіліся на нашых землях у апошнія дзесяцігодзьдзі. Відаць, людзі шукаюць Бога, а пазбаўленьня ад сваіх праблемаў, пры гэтым пазбаўляючы самых сябе ад адказнасьці за іхнае вырашэньне. Значная частка па-ранейшаму лічыць сябе атэістамі. Мне падаецца, нельга лічыць сябе праваслаўным беларусам, ня ведаючы такіх імёнаў, як Еўфрасіньня Полацкая, Кірыл Тураўскі, Канстанцін Астрожскі, для якіх стрыжнем усяго жыцьця заставалася вера бацькоў. У нашай гісторыі – наша моц, і з гэтым разуменьнем, мы спадзяемся, будучыня нашае Царквы і ўсяго нашага народу.

**Кацярына Ткачэнка**

ВЯРХОЎНЫ САВЕТ

# Мэтастазы лукашызму

## (думкі ўслых)

У верасьні 1996 г. у газэце «Народная воля» быў апублікаваны Зварот да народу Беларусі Старшыні ВС Сямёна Шарэцкага «Людзі, будзьце пільныя! У рэспубліцы запахла фашызмам!». Зьвяртаючыся да суайчыньнікаў, кіраўнік легітымнага і ў цяперашні момант заканадаўчага воргану ўлады папярэджваў, што ў нашай дзяржаве створаны таталітарны рэжым з усімі ягонымі атрыбутамі. Сп. Сямён Шарэцкі абвесьціў пра гэта адзін зь першых. Больш таго, калі праходзіў г. зв. рэфэрэндум, ён перад тэлевізійнымі камэрамі ля сьценаў будынку Цэнтравыбаркама, каторы ужо быў ацэплены аўтаматчыкамі з аховы Лукашэнкі й таму недаступны для ўваходу ў яго (Менск ужо быў напоўнены тысячамі ўзброеных людзей, а плошчы запруджаныя бронетэхнікай), — першы папярэдзіў, што ў Рэспубліцы Беларусь адбываецца дзяржаўны пераварот. Пазьней, калі вынікі «рэфэрэндаму» не былі прызнаныя большасьцю краінаў Эўропы й сьвету, тое самае пачалі паўтараць і іншыя палітыкі.

Асабіста ў мяне згаданы вышэй зварот С. Шарэцкага выклікаў неадназначнае ўражаньне. На той час я толькі што пазнаёміўся зь «вялікай палітыкай» і яшчэ ня вызнаў ейныя таемныя, брудныя падводныя цячэньні (у студзені таго самага 1996-га я быў абраны старшынём камісіі па заканадаўству ВС), а таму я мяркаваў, што такі сцэнар у Рэспубліцы Беларусь немагчымы. Аднак падзеі змусілі пераканацца ў зваротным.

Стараньнямі палітычных прайдзісьветаў й проста несумленных людзей (у тым ліку й з дапамогай г. зв. «старэйшых братоў») краіну ўцягнулі ў вір глябальнай катастрофы. Рэспубліку, якая імкнулася не глядзець больш на сьвет толькі цераз «маскоўскія акуляры», якая пачала актыўна зрэалізоўваць свой шанец непасрэднага прыяднаньня да міжнароднай супольнасьці ў якасьці ейнага паўнапраўнага суб'екта, захліснула хваля інспіраванага з Масквы палітычнага й канстытуцыйнага крызісу. Культ дыктатара, таталітарная ўлада дзяржавы над усімі сфэрамі грамадзкага жыцьця, усеагульны кантроль над асобай, манапалізацыя СМІ для «апрацоўкі» сьвядомасьці народу, выкарыстаньне сілавых мэтадаў дзеля задушэньня іншадумцаў, пастаянны пошук «злачынцаў» і нават «новых ворагаў», — вось далёка ня поўны пералік сродкаў і мэтадаў, каторыя выкарыстоўваў і выкарыстоўвае былы прэзыдэнт і ягоныя хаўрусьнікі ў сваёй злачыннай дзейнасьці. Яны пераконвалі й пераконваюць цераз СМІ, што беларусы, маўляў, разумеюць, што жывуць далёка не ў небясьпечных умовах, хочаць, каб іх нехта абараняў. Шукаюць моцнага кіраўніка, спадзяюцца на яго. Плюс — рабская псыхалёгія, спадчына продкаў, калі ўся надзея не на сябе самага, а на «Правадыра» (князя, цара, проста пана). Разлік тут тонкі, ды гісторыя праходзіла гэта ўжо не аднойчы. Праўда, адпаведныя высновы не паўсюль і не заўжды рабіліся, асабліва ў галіне законаў грамадзкага разьвіцьця, — і тады надыходзіў крах... Патрапіла ў такую пастку й Рэспубліка Беларусь.

Зразумеўшы, што надыходзіць час за ўсё адказваць, уся гэтая «чынавецкая раць» пачынае «запяваць», маўляў, народ часта й трагічна памыляецца, а перадусім вінаваты ён адзін — Бацька. Годзе, шаноўныя! У Беларусі, якая напачатку сваёй незалежнасьці абрала шлях на стварэньне праўнай дэмакратычнай дзяржавы, вам гэтае ня ўдасца! Тым болей, што крымінальная справа ужо ўзбуджаная супраць усіх галінаў былой улады (заканадаўчай, выканаўчай, судзебнай). Прыходзіць і ўжо прыйшоў час, калі мы, беларусы, павінныя спазнаць праўду такою, якая яна ёсьць. Народ павінны ведаць ня толькі сваіх герояў, але й сваіх нягоднікаў. Герояў трэба праслаўляць, а злачынцаў —

Праця́г на старонцы 5

 



# ЛІТОЎСКА-БЕЛАРУСКІ СЭМІНАР «10 ГАДОЎ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ РЭФОРМАЎ»

*• На жаль, Беларусь і Літва ідуць пакуль што рознымі шляхамі. Больш таго, ідуць у розныя бакі. Калі Літва йдзе шляхам да Эўропы, дык Беларусь пакуль што вагаецца. Тым, хто сёньня стаіць на чале Беларусі, надта-ж хочыцца пайсьці на Ўсход. А што тычыцца магчымасьцяў беларускага й літоўскага народаў, дык яны былі напачатку 90-ых неаднолькавыя, бо Літва ў свойчас, папершае, мела 20 гадоў незалежнасьці й за гэты час вырасла цэлае пакаленьне нацыяналістаў у добрым сэньсе гэтага слова. Тымчасам Беларусь ня мела незалежнасьці, а была разадраная на дзьве паловы, і на ўсходняй ейнай палавіне памятнікам тых часоў зьяўляюцца Курапаты, а на заходняй Куртуз-Бяроза. Па-другое, у паваенныя гады на чале Савецкай Беларусі да 1956 году ніколі не стаяў беларус, а на чале Літвы сакратаром ЦК заўсёды быў літовец. Тут гаворка йдзе не пра ідэалягічныя погляды, а пра тое, што калі ў Беларусі панавалі рускія шавіністы Панамарэнка, Патолічаў і Цанава, дык у Літве вялася якраз такая нацыянальная палітыка, якая была магчымая ў тых умовах. Рабілася шмат, каб захаваць нацыянальнае аблічча літоўскага народу.*

***Старшыня Вярхоўнага Савету РБ* Сямён Шарэцкі**

*• Усе мы напрацягу апошніх 10 гадоў бачылі, як Літва й Беларусь пайшлі зусім іншымі дарогамі, хаця, здавалася-б, стартавыя магчымасьці былі аднолькавыя. Гэты сэмінар арганізаваны дзеля таго, каб высьветліць, ці сапраўды адрозныя шляхі Літвы й Беларусі былі прадвызначаныя гісторыяй, лёсам нашых народаў, ці ўсё-ж мы ёсьць адно цэлае, і тыя працэсы, якія сёньня адбываюцца ў Літве, будуць рана ці позна адбывацца (зразумела, з сваімі папраўкамі) і ў Беларусі. Ці змогуць беларусы ў будучыні нешта скарыстаць зь літоўскага досьведу дэмакратычнага разьвіцьця?*

***Сябра ВЦГІ «Дэмакратыя для Беларусі»* Сяргей Вітушка**

*• Асноўная мэта нашае сустрэчы ёсьць якраз тое, каб у беларускай інфармацыйнай прасторы больш было зьвестак пра тыя працэсы, каторыя сёньня адбываюцца ў Літве. Гэта вельмі важна, бо калі параўнаць прысутнасьць у нашай інфармацыйнай прасторы суседніх расейскіх СМІ, або нават польскіх, – дык пра Літву мы фактычна нічога ня ведаем. Такая тэндэнцыя носіць нэгатыўны характар. Калі напачатку 90-ых было ў нас значна больш інфармацыі пра Літву, дык, чым далей, яе робіцца менш і менш. Спадзяемся, што наш сэмінар істотна паспрыяе інфармацыйнаму збліжэньню нашых суседніх краінаў.*

***Сябра Цэнтру «Супольнасьць» (Менск)* Алесь Стральцоў**

## Праблемы Нацыянальнага тэлебачаньня Літвы

Калі вярнуцца на дзесяць гадоў назад у часы, калі мы пачалі працаваць у незалежнай Літве, дык самыя першыя нашыя крокі сутыкаліся зь вялікімі цяжкасьцямі, бо мы былі прывыклыя да аднаго меркаваньня, і гэтае меркаваньне было меркаваньнем адной партыі. Часьцей за ўсё мы казалі, распавядалі, пісалі, здымалі, гаварылі ў эфіры так, нібыта ўсе мы думалі амаль аднолькава. І вось пасьля «сьпеўнай рэвалюцыі» 91-га нам давялося гаварыць ужо на розныя галасы. І гэта для нас самых было нейк дзіўна, бо ў кожным сядзеў яшчэ «ўнутраны цэнзар», каторы казаў: «А можа трэба будзе яшчэ вярнуцца назад? Можа ня час яшчэ быць вельмі сьмелымі й казаць тое, што думаеш?»

Ды ўсё-ж паявіліся новыя газэты, першым сярод якіх быў лісток «Навіны» Саюдзіса, каторы друкаваўся падпольна й распаўсюджваўся «з рук у рукі». Можна сказаць, што з гэтага лістка пачыналася адна з самых папулярных цяпер газэта «Рэспубліка». Помню, калі яна зьявілася, людзі станавіліся ў чэргі перад кіёскамі, чакалі новага нумару. Нават дзіўна было, што мы раней стаялі ў чэргах за прадуктамі, а цяпер – за газэтай.

Мяняліся назвы газэтаў. Так «Камсамольская праўда» пераўтварылася ў «Летувос рытас» («Літоўская раніца»). Яна самая першая стала прыватная й цяпер ці не самая моцная з усіх літоўскіх газэтаў. Здарылася гэта таму, што ў ёй усё-ж працавалі й дагэтуль працуюць прафэсыйныя кадры, а гэта было важна й тады, бо нягледзячы ні на якія зьмены ў грамадзтве, журналіст павінен валодаць і думкай, і словам, знайсьці цікавы матар'ял, як сьлед падаць яго ў СМІ.

Але ў той самы час пачалося й размежаваньне: адныя былі з Ландзбергісам, другія – з Бразаўскасам. Першыя называліся «саюдзістамі», другія йшлі за былымі камуністамі. Зразумела, сярод журналістаў гэтае размежаваньне ярка не праяўлялася. Затое ў грамадзкім жыцьці гэтае было яскрава бачнае. Праяўлялася яно й на бытавым узроўні, нават за бяседным сталом, калі, пасьпяваўшы, людзі пачыналі зацятыя палітычныя спрэчкі. Адныя баяліся рэзка ўсё мяняць, другія хацелі перакрэсьліць усё, што было ў мінулым, тварыць новае жыцьцё. Такая «асьцярожная палітыка» перамяжоўвалася з рэзкімі рухамі.

У Беларусі, наколькі мне вядома, для журналістаў існуюць усялякія забароны. Зусім нядаўна мы хацелі паехаць па шляхах Міцкевіча. Аднак у беларускай амбасадзе нам патлумачылі, што дазволу на здымкі ў Наваградчыне яны нам даць ня могуць, хоць мы казалі, што здымаем для непалітычнай перадачы «Падарожжы». «Каб здымаць, патрэбны дазвол беларускага ўраду!» – зноў патлумачылі нам, і мы змушаныя былі памяняць пляны.

Аднак, нельга сказаць, што сёньня ў нас у Літве, асабліва на Нацыянальным тэлебачаньні, не назіраецца рэцыдываў мінулага. Усё-ж поўнай незалежнасьці, пра якую марыць журналісты, у нас пакуль што няма. Літоўскае нацыянальнае тэлебачаньне й радыё падпарадкаванае Савету. У Савет уваходзяць прадстаўнікі Сойму, Прэзыдэнта, а таксама розных творчых арганізацыяў. Яны (прыкладна 15 чалавек) вырашаюць, якім быць нашаму Нацыянальнаму тэлебачаньню, якія праграмы паказваць, колькі часу й г. д. Калі шчыра, дык як, напрыклад, вядомы пісьменьнік, вучоны, палітык можа разабрацца ў нашым складаным прафэсыйным мэханізме? Нашыя кіраўнікі сваю працу робяць мімаходзь, непрафэсыйна. Ім, я разумею, вельмі цяжка рашаць усё аб'ектыўна, што вельмі перашкаджае нам у працы. Трэба, на маю думку, каб у Савет уваходзілі прафэсыяналы, каторыя ведаюць рынак, каньюктуру. Мы чакаем, што да нас прыйдзе гаспадар, каторы будзе разьбірацца ва ўсім, пачынаючы ад разуменьня таго, што тэхніка, на якой мы працуем, даўно састарэла, што нам патрэбныя кампутары, што мы жывем не ў каменным веку. Мы хочам, захоўваючы сваё аблічча, канкураваць з камэрцыйным тэлебачаньнем. Калі ў генэральныя дырэктары Савету прыходзяць непрафэсыяналы, яны могуць толькі ўзьнёсла разважаць, не разумеючы таго, што сапраўднага тэлебачаньня нельга стварыць без сапраўдных спэцыялістаў.

Што тычыцца нашай незалежнасьці, дык нашыя перадачы, безумоўна, мы робім паводле нашага разуменьня. Аде нашае кіраўніцтва заўсёды азіраецца на Сойм, на Прэзыдэнтуру. Таму старое «тэлефоннае права» жывое яшчэ і ў нас. Але, якбы там не было, я перакананая, што журналіст павінны быць нэўтральным, аб'ектыўна перадаваць самыя супрацьлеглыя погляды й меркаваньні, і няхай самі гледачы й слухачы вырашаюць, за кім ім ісьці.

*Кіраўніца творчай групы тэле-часопісу «Кялёнес»*
**Бірутэ Баліненэ**

## Экалягічныя праблемы Літвы

У Савецкай Літве просты чалавек мог, напрыклад, паехаць на любое возера й лавіць там рыбу, адпачываць дый рабіць з прыродай, што захочыцца. Цяпер-жа ў Літве так проста не адпачнеш, бо зямля, як правіла, аддадзеная ўласьнікам. Зразумела, што ўласьнікі не даюць забруджваць тую зямлю, якая ім належыць. Але зь іншага боку, гэтую самую зямлю могуць купіць у іх іншаземцы ды пабудаваць які-небудзь экалягічна брудны заводзік. Так у раённым мястэчку Расейняй, дзе налічваецца 7 тыс. жыхароў, французы пачалі вырабляць драўлянны вугаль, вытворчасьць якога вельмі шкодная для здароўя чалавека дый для ўсяго жывога.

Звычайна ў Літву (і, думаю, у Беларусь таксама) прыяжджаюць прадстаўнікі фірмаў, каторыя хочаць хутка зрабіць грошы й каторыя, з прычыны экалягічных патрабаваньняў, ня могуць працаваць на радзіме. Таму да іхных разважаньняў пра інвестыцыі, прыбыткі для літоўскай дзяржавы і г. д. трэба ставіцца вельмі асьцярожна. На жаль, пытаньне прысутнасьці замежнай вытворчасьці на тэрыторыі Літвы рашаецца нашымі ўрадавымі структурамі без уліку нэгатыўных экалягічных наступстваў. Сёньня мы разнасьцежваем дзьверы заходняму капіталу, не задумваючыся пра экалягічную будучыню Літвы, хоць ёсьць у нас адпаведныя экалягічныя законы, якія павінны выконваць і іншаземцы. Пакуль мяйсцовыя й рэспубліканскія ўлады ня будуць звярочваць увагі на экалягічны бок праектаў замежных фірмаў, датуль мы будзем рызыкаваць здароўем нашага насельніцтва.

Яшчэ адна праблема, якая хвалюе «зялёных» Літвы й мяне асабіста, гэта магчымае выкарыстаньня сіламі НАТА тых палігонаў, якія пакінула пасьля сябе савецкая армія. Я-б не хацеў, каб Літва ўступала ў гэты ваенны блёк, мару, каб наша маленькая краіна мела такі самы статус, як Швэйцарыя або Швэцыя. На жаль, усё тут вырашае палітыка, і ў сьвеце, дзе правіць капітал, на нас, «зялёных», глядзяць, як на ідэалістаў.

Што тычыцца пагрозы, якая сыходзіць ад Ігналінскай АЭС, пабудаванай паводле такога самага праекту, што й Чарнобыльская станцыя, дык, я думаю, яна мінімальная. Заходнія краіны, асабліва Швэцыя й іншыя скандынаўскія краіны, уклалі вялікія грошы на праблемы ейнай бясьпечнай эксплятацыі, пільна сочаць за ейнай работай. Першы блёк станцыі будзе зачынены праз 4-5 гадоў, наступны будзе працаваць каля 15 гадоў. На станцыі цяпер праходзяць розныя «донарскія» канфэрэнцыі – зьбіраюць грошы з Захаду для ейнага закрыцьця. Увогуле, у геапалітычным пляне нашая АЭС Захаду непатрэбная, бо Літва (як і Беларусь) разглядаецца імі толькі як краіны, дзе яны маглі-б прадаваць сваю ўласную электраэнэргію. Аднак нам самім трэба думаць пра сваю ўласную вытворчасьць, таму што без вытворчасьці ня будзе ў нас працоўных мейсцаў, мы будзем бяднець, у грамадзтве будзе нарастаць сацыяльнае напружаньне. Я спадзяюся, што ў Літве і ў Беларусі стае разумных людзей, каторыя думаюць пра тое, як самім прарвацца на заходні рынак, як наладзіць вытворчасьць. А Ігналінскай АЭС, я мяркую, гадоў праз 30 ужо ня будзе, хоць дае яна Літве 85% ад усёй электраэнэргіі.

Вяртаючыся ў савецкае мінулае, хачу адзначыць, што Ігналінская АЭС ды іншыя прамысловыя гіганты (напрыклад, Мажэйкяйскі нафтаперапрацоўчы камбінат) пабудаваныя на самай мяжы Літвы й так, што «ружа вятроў» скіраваная да нашых суседзяў, латышоў і беларусаў. Я мяркую, што тут не абышлося бяз волі нашага тадышняга партыйнага кіраўніка Антанаса Сьнечкуса, каторы ўсё-ж клапаціўся, на колькі гэта было магчыма, пра здароўе літоўскага народу.

*Рэдактар газэты «Жалясіс пасаўліс» («Зялёны сьвет»)*
**Аўгустас Уктверыс**

# Статус бежанца ў Літве

Статус бежанца ў Літве сфармуляваны на падставе Жэнеўскай канвэнцыі 1951 году, дзе сказана, што статус гэты можа прасіць кожны іншаземец, жыцьцю якога пагражае небясьпека праз ягоную палітычную дзейнасьць або праз нейкія сацыяльныя, нацыянальныя, расавыя ці іншыя праблемы. Зразумела, калі падзеі ў Беларусі будуць разьвівацца ў антыдэмакратычным кірунку, дык прадстаўнікі беларускай апазыцыі будуць мець магчымасьць атрымаць статус бежанца ў Літве. Гэта не азначае, што кожны, хто прыяжджае зь Беларусі ў Літву можа атрымаць гэты статус. (Хаця кожны, канечне, мае права зьвярнуцца з просьбай аб статусе ў адпаведныя інстанцыі). У Законе аб статусе бежанца сказана, што для атрыманьня яго трэба зьвярнуцца з заявай у любыя дзяржаўныя органы, насамперш – у Дэпартамант міграцыі, каторы знаходзіцца ў падпарадкаваньні Міністэрства замежных справаў і ў кампэтэнцыі каторага разглядаць тыя заявы й прымаць рашэньня паводле іх. Разглядаецца заява напрацягу 6 месяцаў. Згодна Жэнеўскай канвэнцыі іншаземцы ў Літву могуць прыбываць нават без дакумантаў і зьвяртацца з заявай на атрыманьне статусу бежанца. Але з гэтага не вынікае, што кожны іншаземец аўтаматычна атрымлівае такі статус.

Напрацягу 6-месячнага пэрыяду разгляду заявы, заяўнік, калі яму няма дзе жыць, накіроўваецца ў Цэнтар па прыёме бежанцаў. Калі-ж чалавек мае мейсца для пражываньня, дык ён жыве, дзе яму жадаецца. Аднак тады ён пэрыядычна павінен прыходзіць на апытаньні, у выніку якіх і вырашаецца, даваць яму статус бежанца, ці не даваць. У Цэнтры-ж па прыёме бежанцаў дзяржава бярэ на сябе поўную фінансавую адказнасьць адносна ўтрыманьня тых, хто чакае вырашэньня свайго лёсу на ўвесь пэрыяд разгляду заявы. Апроч таго літоўская дзяржава забясьпечвае іхнюю прававую абарону (г. зн. кожнага забясьпечвае адвакатам), а таксама кожнаму дае права на аб'ектыўны пераклад – на апытаньнях прысутнічае перакладчык, які падпісвае паперы аб аб'ектыўнасьці зробленага ім перакладу з мовы шукальніка статусу бежанца.

У краінах Захаду працэнт атрыманьня статусу бежанца складае ад 3 да 11 адсоткаў. Праўда там, у параўнаньні зь Літвой, колькасьць заяўнікаў значна большая, чым у Літве. Можа таму ў нас большы працэнт атрыманьня статусу бежанца – у нас яго атрымлівае кожны 4-5 заяўнік. Згодна літоўскаму Закону аб статусе бежанца і ў адпаведнасьці з Жэнеўскай канвэнцыяй заяўнікі, каторыя атрымалі адмоўнае рашэньне Дэпартаманту міграцыі, могуць абскардзіць яго ў Вышэйшай інстанцыі – у Радзе па правах бежанцаў, кіраўніком якога я зьяўляюся. Што тычыцца колькаснага й якаснага складу нашай Рады, дык у яе ўваходзіць 12 члонкаў: адзін прадстаўнік Прэзыдэнта, два дэпутаты Сойму, два прадстаўнікі ад недзяржаўных арганізацыяў (гэта прадстаўнік ад Чырвонага крыжа й Камітэту па правах чалавека) й 7 прадстаўнікоў ад 6 міністэрстваў (два прадстаўнікі ад Міністэрства працы). Рада мае права перагледзіць рашэньне Дэпартаманту й прысвоіць статус бежанца. У гэтым выпадку Дэпартамант абавязаны выдаць іншаземцу адпаведны дакумант. Калі-ж скарга нанова адхіляецца, іншаземец можа яшчэ падаць скаргу ў суд. Адмоўная пастанова суда лічыцца канчатковай.

Калі іншаземец не атрымлівае статус бежанца, ён павінен пакінуць тэрыторыю Літвы. У проціглеглым выпадку ён можа быць дэпартаваны ў краіну пражываньня. Аднак і тут ёсьць адна палёгка: калі іншаземец прыбыў з краіны, у якой адбываюцца ваенныя падзеі, тада ён можа зьвярнуцца за атрыманьнем статусу часовага пражываньня з гуманітарных меркаваньняў. Такім людзям даецца г. зв. гуманітарны статус. Яны з гэтым статусам маюць права жыць у Літве 5 гадоў, атрымліваючы штогод дазвол на пражываньне. А падчас разгляду заявы на атрыманьне статусу бежанца іншаземцам таксама выдаецца дакумант аб часовым тэрытарыяльным прыстанішчы.

*Кіраўнік Рады па справах бежанцаў*
**Уладзімірас Гражуліс**

 

# ПРЫЙШОЎ ЧАС ПАКАЗАЦЬ: МЫ ТАКСАМА ЛЮДЗІ!

...Беларусь прыняла Дэкларацыю аб дзяржаўным сувэрэнітэце 27 ліпеня 1990 г., а ў жніўні таго самага году Дэкларацыі была нададзеная сіла закону. Дзяржаўны сувэрэнітэт, гаварылася ў Дэкларацыі, абвяшчаецца дзеля вышэйшай мэты свабоднага разьвіцьця й дабрабыту, годнага жыцьця кожнага грамадзяніна на падставе забясьпечаньня правоў асобы ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй і міжнароднымі абавязкамі. 15 сакавіка 1994 г. была прынятая й сама Канстытуцыя РБ, згодна зь якой наша краіна зьяўляецца ўнітарнай дэмакратычнай прававой сацыяльнай дзяржавай. Рэспубліка Беларусь валодае вяршэнствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі, самастойна ажыцьцяўляе ўнутраную й зьнешнюю палітыку.

На жаль, абраны згодна з Канстытуцыяй прэзыдэнт замест выкананьня сваіх перадвыбарчых лёзунгаў барацьбы з карупцыяй і вываду краіны з крызісу стварыў пад сваёй апекаю небачаную дагэтуль у рэспубліцы карупцыйную структуру – Упраўленьне справамі прэзыдэнта. Больш таго, амаль зь першых дзён ён стаў праводзіць палітыку на ўзурпацыю ўлады й прыяднаньне Беларусі да Расейскай Фэдэрацыі з мэтай стварэньня ўмоваў для таго, каб можна было вылучыць сваю кандыдатуру ў прэзыдэнты вялікай дзяржавы. Праз манапалізаваныя рэжымам СМІ людзям пачалі ўбіваць у галовы, што Беларусь, маўляў, ня можа жыць без Расеі. Пачала абражацца беларуская мова й зноў фальсыфікавацца гісторыя Беларусі. Але перашкодаю, якая не дазваляла дыктатару зьдзейсьніць вышэй названыя злачынствы, сталі Вярхоўны Савет і Канстытуцыйны Суд РБ. Менавіта таму й спатрэбілася так хутка правесьці г. зв. рэфэрэндум (лістапад 1996 г.), каб пазбавіцца гэтых канстытуцыйных органаў. Пасьля зьдзяйсьненьня дзяржаўнага перавароту быў створаны новы кішэнны парлямант, каторы падобна да фашыстоўскага савету пры дучэ Мусаліні ня мае ні самастойнасьці ў матар'яльным забясьпечаньні сваёй работы, ні заканадаўчай ініцыятывы. Кішэнным зрабіўся й Канстытуцыйны суд. Зьліквідаваная самастойнасьць судовай улады.

Такім чынам, у Рэспубліцы Беларусь адсутнічае цяпер самы галоўны прынцып дэмакратыі – падзел уладаў на заканадаўчую, выканаўчую й судовую. Уся ўлада сканцэнтраваная ў руках дыктатара, тэрмін прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў якога скончыўся 20 ліпеня 1999 г. З гэтага моманту створаны ім рэжым зрабіўся ня толькі антынародным, але й злачынным, які захапіў і ўтрымлівае ўладу некастытуцыйным шляхам. Таму 1 сьнежня 1999 г. Генэральны пракурор РБ узбудзіў крымінальную справу.

Каб неяк сябе легітымізаваць, рэжым спрабуе завесьці міжнародную супольнасьць у зман і правесьці паводле свайго сцэнару выбары ў г. зв. Палату прадстаўнікоў. Дзеля гэтага рэжым спачатку пагадзіўся нібыта пайсьці на перамовы з апазыцыяй. Але, як адзначана ў Заяве Парляманцкай тройкі АБСЭ ад 22 чэрвеня 2000г.:

**па-першае,** у працэсе абмеркаваньня перамоваў не дасягнута практычна ніякіх станоўчых зьменаў у галіне пашырэньня паўнамоцтваў новага парляманту;

**па-другое,** нязначна палепшылася й празрыстасьць выбарчага працэсу, не гарантуецца склад выбарчых камісіяў, у якія ўваходзілі-б прадстаўнікі розных палітычных сілаў;

**па-трэцяе,** адбыўся малы прагрэс у галіне доступу ўсіх палітычных партыяў да СМІ, няма гарантыяў такога доступу й на пэрыяд перадвыбарчай кампаніі, а ўпартасьць рэжыму ў вырашэньні гэтага пытаньня тлумачыцца тым, што галоснасьць і празрыстасьць узьдзейнічаюць на дыктатарскія рэжымы гэтаксама згубна, як сонца на плесьню;

**па-чацьвертае,** у краіне працягваецца парушэньне правоў чалавека, што выявілася ў зьнікненьні вядомых палітыкаў В. Ганчара й Ю. Захаранкі, бізнэсоўца А. Красоўскага, прысудаў паводле справаў М. Чыгіра, М. Статкевіча, В. Шчукіна, зусім нядаўна зьнік журналіст Дзімітры Завадзкі.

У сытуацыі, якая склалася ў краіне, гаворыцца далей у Заяве Парляманцкай тройкі, «...дэлегацыя не змагла-б рэкамэндаваць сваім інстытутам накіраваць міжнародных назіральнікаў за парляманцкімі выбарамі ў Беларусі восеньню гэтага году». З такімі ацэнкамі прадстаўнікоў міжпарляманцкіх арганізацыяў згодны й Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету РБ, і прадстаўнікі дэмакратычных партыяў, пра што апошнія заявілі ў Рэзалюцыі Кангрэса дэмакратычных сілаў Беларусі «Пра адносіны да выбараў». Больш таго, Кангрэс у згаданай Рэзалюцыі адзначыў, што ў выпадку невыкананьня чатырох адпаведных умоваў, лічыць немагчымым удзел у выбарах партыяў і арганізацыяў, што ўваходзяць у Каардынацыйную раду дэмакратычных сілаў...

Але, безумоўна, стратэгічнае значэньне мае зараз пытаньне аб захаваньні дзяржаўнай незалежнасьці Рэспублікі Беларусь, разгляду якога будзе прысьвечаны Усебеларускі зьезд... Праўда, у сувязі з абраньнем у Расейскай Фэдэрацыі прэзыдэнта й адсутнасьцю ў бліжэйшы час для беларускага дыктатара распаўсюдзіць сваю ўладу на расейскія абшары, апошнімі месяцамі ён таксама загаварыў аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі. Прычым пачаў нават чытаць даклады на беларускай мове (!). Але, па-першае, усе ягоныя размовы пра сувэрэнітэт будуць весьціся толькі да зьяўленьня новых магчымасьцяў гуляць на расейскім полі. Так ужо было за часы прэзыдэнта Ельцына: калі апошні захварэў, беларускі дыктатар пачынаў гульню ў расейскіх рэгіёнах, калі ачуньваў – супакойваўся. А, па-другое, беларускі дыктатар у гэтым так далёка зайшоў, што ўжо вырашэньне самага важнага для будучыні Беларусі пытаньня – сувэрэнітэту рэспублікі – мала ад яго залежыць. Дыктатарскі рэжым, які напрацягу апошніх гадоў не займаўся рэфармаваньнем эканомікі й зблізканьнем яе з эўрапэйскай, паставіў краіну ў значную залежнасьць ад Расеі. Дый ва ўрадзе РБ усе ключавыя пасады, пачынаючы цяпер ужо з прэм'ера, займаюць расіяне. Галоўныя канструктарамі палітыкі ў Прэзыдэнтуры таксама зьяўляюцца расейскія палкоўнікі. Да сказанага трэба дадаць, што ў самой Расейскай Фэдэрацыі апошнім часам відавочна вызначылася тэндэнцыя да ўсталяваньня дыктатарскага тыпу кіраваньня, узмацняюца вялікадзяржаўныя, шавіністычныя тэндэнцыі ў палітыцы.

Пералічаныя факты красамоўна сьведчаць, што вастрыня пытаньня аб дзяржаўным сувэрэнітэце Рэспублікі Беларусь не зьмяншаецца. Таму правядзеньне Усебеларускага зьезду, на якім будзе абмеркаванае гэтае пытаньне, зьяўляецца ў вышэйшай ступені актуальным і своечасовым. З той прычыны Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету РБ прыняў пастанову аб удзеле дэпутатаў ВС ва ўказаным форуме. Спадзяюся, што дэпутаты паставяцца да гэтага станоўча й з павагай, і што прынятыя на Усебеларускім зьезьдзе дакументы прадэманструюць перад усім сьветам волю беларускага народу на вырашэньне пытаньня аб незалежнасьці дзяржавы, тым больш, што арганізатары зьезду робяць усё дзеля таго, каб дэлегаты на ім прадстаўлялі ўсе куткі Беларусі і ўсе пласты ейнага насельніцтва...

Беларусь павінная ня толькі вярнуцца на дэмакратычны шлях разьвіцьця й быць незалежнай дзяржавай, але, будучы ў добрых адносінах з усімі суседзямі, імкнуцца ўступіць ва ўсе эўрапэйскія структуры, што, як паказвае практыка, стварае неабходныя ўмовы для стабільнага разьвіцьця эканомікі й вырашэньня многіх сацыяльных пытаньняў, гарантуе, што ня менш важна, абарону ад замахаў на ейную цэласнасьць і сувэрэнітэт. Нам трэба йсьці ў эўрапэйскі цывілізаваны сьвет, а не туды, куды нас цягне антынародны паводле свайго складу й праводзімай палітыкі, акупацыйны, па-сутнасьці, прарасейскі дыктатарскі рэжым.

*Старшыня Вярхоўнага Савету РБ*
**Сямён Шарэцкі**

# Мэтастазы лукашызму

*Працяг са старонкі 3*

судзіць.

Гісторыя сьведчыць. У 1945 г. на Нюрбэргскім працэсе былі асуджаныя ня толькі ваенныя злачынцы Германіі, але й сам фашызм як палітычная сыстэма й ідэалёгія. У адпаведнасьці да суда былі прыцягнутыя вышэйшыя ваенныя й дзяржаўныя дзеячы фашысцкай Германіі. Аднак нічога не было зроблена ў дачыненьні другога дыктатарскага, ня менш жорсткага й злачыннага, бальшавіцкага рэжыму. Застаўшыся публічна не асуджаным, бальшавізм працягваў вяршыць сваю чорную справу, чынячы ўсё новыя й новыя злачынствы на тэрыторыі былога СССР. Падзеі сёньняшніх дзён сьведчаць, што бальшавізм нельга пакідаць без асуджэньня, таму што сьвет ня выпрацаваў імунітэту супраць адраджэньня дыктатарскіх рэжымаў. Балючым і чуйным да адраджэньня гэтай гнюснай пошасьці мейсцам, на вялікі жаль, сталася нашая Беларусь. Рэцэдыў дыктатарскага ладу праявіўся тут і пышна расьцвіў смуродам у выглядзе «лукашызму».

Сытуацыя, якая склалася ў Беларусі, сьведчыць, што лукашызм змушаны старанна абараняць сябе ад уласных грамадзянаў адмысловымі законамі, рэпрэсіямі й турмой, але гэтым ён сам сабе выносіць сьмяротны вырак і паказвае, на якім нізкім узроўні маральнага падзеньня знаходзіцца. У Беларусі няма сёньня грамадзянаў, а ёсьць, у лепшым выпадку, «падданые», няма чалавека, ёсьць толькі адзін Чалавек: Правадыр, Вяршыцель лёсаў. Такія «правіцелі й палітычныя ліліпуты» заўсёды ўсплывалі на паверхню пры пэўных гістарычных умовах, аднак ні павярнуць кола гісторыі назад, ні прыпыніць ягоны рух яны ня могуць.

Рэжым ужо зрабіў амаль усё, што ад яго залежыць, каб ён разглядаўся гісторыяй, як своеасаблівы эпізод злачынных учынкаў. Эпізод, каторы неабходна расследаваць і вынесьці паводле яго судзебны вэрдыкт. Але перад тым, як асудзіць лукашызм, мы павінныя падумаць над пытаньнем, якім судовы ворган гэтае зробіць? Ці здольная сёньняшняя, створаная дыктатарам судовая ўлада, што аказалася ня толькі з завязанамі вачыма, але й зьвязаная па руках і нагах, — на такое?! Безумоўна, не. Бо яна сама зьяўляецца чацткай гэтага рэжыму. Усё тое, што сёньня адбываецца ў судах Рэспублікі Беларусь, ад ніжэйшага зьвяна да самага Вярхоўнага, зьяўляецца страшным кашмарам. «Галадранцы разуму» судзяць безабаронных людзей, агалошваць прыгаворы ад імя дзяржавы, разумеюць, што такое магчымае толькі ў краіне з дыктатарскім рэжымам. Вось чаму бацыла лукашызму так лёгка дала мэтастазу і ў судзейскай мантыіі выступае ў выглядзе СУКАЛІЗМУ. Ці-ж гэта не злачынства, калі на зьезьдзе судзьдзяў усім удзельнікам (праўда й тут не абыйшлося без падзелу паводле ранжыру) уручылі ў прысутнасьці самога дыктатара імянныя гадзіньнікі, а затым рэспубліку захлінула хваля працэсаў над апазыцыянэрамі, дэпутатамі легітымнага Вярхоўнага Савету й проста нечым няўгодных рэжыму грама-дзянаў?

12-14 чэрвеня ў Вільні праходзіў міжнародны кангрэс «Ацэнка злачынстваў камунізму». Падчас першага паседжаньня міжнароднага форуму (у ім удзельнічала звыш 20 дэлегацыяў краінаў сьвету, у тым ліку й Беларусь) быў створаны грамадзкі трыбунал, праца й дзейнасьць якога праходзіла й будзе праходзіць у строгай адпаведнасьці зь міжнародным правам. У восеньскім паседжаньні трыбуналу будзе ўдзельнічаць і Генэральны пракурор РБ. Аналізуючы работу кангрэсу й трыбуналу, думаецца, што ў Беларусі нам таксама тэрмінова трэба стварыць свой нацыянальны трыбунал, трыбунал асуджэньня лукашызму як разнавіднасьці дыктатарскіх рэжымаў: фашызму й бальшавізму. Пад суд неабходна аддаць тых грамадзянаў Беларусі, которыя гралі ролю арганізатараў а таксама памагатых дзяржаўнага перавароту (восень 1996 г.) і таму павінныя несьці асноўную адказнасьць. Такі працэс у дастатковай меры паслужыць наглядным урокам на ўсе далейшыя часы тым, хто паспрабуе адрадзіць дыктатарскі рэжым.

*Генэральны пракурор РБ*
**Рыгор Пракаповіч**

# Расея — эпіцэнтар разбуральных сілаў сусьветнай супольнасьці

*Заканчэньне. пачатак у нумары 31*

4. Тэрарызм — падмурак ідэалёгіі сучаснай Расеі

Камуна-чынавецкая, дэнацыяналізаваная кляса Расеі захапіла ва ўласнасьць велізарныя багацьці краіны, стварыла манапольны капіталізм чынавецкай верхавіны ды гучна абвесьціла ўсяму сьвету аб сваёй прыхільнасьці да чалавечых каштоўнасьцяў. Яна ўзяла на ўзбраеньне дзеля свайго ўратаваньня ўсе каштоўнасьці цывілізацыі: лібэралізм, дэмакратыю, сацыял-дэмакратыю, хрысьціянскі дэмакратызм, усе рэлігіі, пакінуўшы сабе й камунізм. Захад, Амэрыка, увесь цывілізаваны сьвет з натхненьнем віталі «дэмакратычныя пераўтварэньні ў Расеі», аказвалі ёй усебаковую дапамогу, эканамічную, гуманітарную, маральную, аддалі ў ейнае поўнае распараджэньне Беларусь — у якасьці платы за тыя «дэмакратычныя пераўтварэньні». У свой чарод дэнацыяналізаваная эліта нуворышаў Расеі, размахваючы дэмакратычным жупелам перад усім сьветам, несупынна шукала й шукае сваю новую ідэалёгію. Пра гэта вёў гаворку былы прэзыдэнт Расеі Ельцын, ягоныя хутказьменлівыя прэм'ер-міністры, пастаянна гавораць лідары ўсіх расейскіх партыяў і блёкаў. З просьбай знайсьці «нацыянальную ідэалёгію» зьвяртаецца да навуковай грамадзкасьці чалавек, каторы быў надзелены прэзідэнцкай уладаю яшчэ да свайго абраньня прэзыдэнтам. І калі сабраць разам усе пажаданьні эліты, на якіх павінная грунтавацца ідэалёгія Расейскай дзяржавы (патрыятызм, веліч Расеі, недзялімасьць, непахіснасьць ладу, імкненьне кіраваць усім сьветам), дык ідэалёгія Расеі ўжо даўно выпрацаваная — гэта ідэалёгія дзяржаўнага тэрарызму.

Палітычныя эліты Эўропы й Амэрыкі ніяк ня могуць зразумець, а дэмакратычная бізнэс-эліта ніяк ня можа ім растлумачыць, што народам у Расеі зьяўляецца камуна-чынавецкі клян, каторы валодае ўсімі багацьцямі Расеі. Усе астатнія — жывы матар'ял, які павінен забясьпечыць росквіт новаму народу — «новым рускім». Ідэалёгія расейскай бізнэс-эліты знаходзіць поўнае разуменьне ў бытавога рускага шавінізму вымíраючай рускай нацыі і ў бытавога рускамоўнага шавінізму вялікай масы дэнацыяналізаваных людзей. З той прычыны разбуральныя сілы фундамэнтальнага прынцыпу самаарганізацыі матэрыі ў Расеі імкліва нарастаюць. У барацьбе з законамі прыроды рускамоўны шавінізм робіцца ўсё больш агрэсыўны. Народ Чачні, каторы выступіў на абарону свае свабоды й незалежнасьці, бязьлітасна асуджаны ім да зьнішчэньня. Роль ката чачэнскага народу ўскладваецца на рускую нацыю, вылегчаную, пазбаўленую нацыянальнай эліты, выміраючую, але якая працягвае спраўна служыць антырускім інтарэсам. Усе СМІ, усе палітычныя сілы Расеі (за выключэньнем «Яблыка») апраўдваюць злачынствы рускай арміі ў Чачні, злачынствы супраць чалавецтва, якія ня маюць часу даўнасьці. Нясьмелыя спробы вядучых краінаў сьвету нагадаць расейскай эліце аб правох чалавека рашуча ёю адхіляюцца. Дэнацыяналізаваная палітычная эліта Расеі прысвойтала сабе права распараджацца лёсам больш 150 нацыяў і, не задумваючыся, бразгае сваім атамным, біялягічным ды хімічным патэнцыялам разбурэньня, пагражаючы ўсяму сьвету й адкрыта заяўляючы аб сваёй місіі вяршыцеля лёсу народаў зямнога шару. А чачэнскі народ адкрыта зьнішчаецца, каб непанадна было іншым народам Расеі думаць пра сваю свабоду. Ім (народам) дазваляецца адно толькі ціха выміраць. Вось вытрымка зь ліста хантаў зь вярхоўя ракі Тром-Аган быламу прэзыдэнту Ельцыну: «Нас выганялі, выганяюць нафтавікі з нашых земляў, рабуюць нашыя чумы, лабазы, забіваюць на мяса нашых аленяў, ашукваюць, спойваюць нас» («Берегиня» N7/1999).

Расея ня стала «на чале адукаванага сьвету» ні ў 1940 г., ні ў 2000! Яна ня можа даваць «законы і навуцы, і мастацтву». Ёй ніколі не давядзецца «прымаць поўную глыбокай пашаны даніну павагі ад усяго асьвечанага чалавецтва»... Вынікі выбараў 19 студзеня 1999 г. у Расейскую Думу аб'ектыўна паказалі стан грамадзкае сьвядомасьці ў краіне. Яна характарызуецца цалкавітай сацыяльнай і палітычнай неадукаванасьцю большай часткі насельніцтва дзяржавы. Насельніцтва практычна падтрымала палітыку й ідэалёгію тэрарызму, праводзімую рускамоўнай шавіністычнай элітай Расеі й скіраванай на далейшае зьніш-чэньне ўсіх народаў краіны ды нацкоўваньне адных народаў на іншыя. Гэтым яна разнасьцежыла шлюзы нястрымнаму росту разбуральных сілаў фундамэнтальнага прынцыпу самаарганізацыі матэрыі, і гэтыя сілы будуць ахопліваць усё новыя й новыя расейскія (й ня толькі!) рэгіёны.

Зьмест Хартыі, прынятай у Стамбуле ў 1999 г., паказвае самазадаволенасьць, бездапаможнасьць і некампэтэнтнасьць палітычных элітаў Эўропы й Амэрыкі, іхнюю няздольнасьць выкарыстаць ужо адкрытыя законы разьвіцьця цывілізацыі. Таму глябальны крызіс цывілізацыі працягвае паглыбляцца. Альбо чалавецтва ўсьвядоміць рашаючую ролю нацыі для свайго самазахаваньня ды эвалюцыйнага развіцьця, альбо цывілізацыя зьнікне ў бліжэйшае стагодзьдзе. Апошняе будзе натуральным праяўленьнем фундамэнтальнага прынцыпу самаарганізацыі матэрыі, адказам Прыроды на трыюмф чалавечай дурасьці.

**Валеры Арцішэўскі**



*Верхні здымак я зрабіў падчас працы на нафтаправодах на поўначы Ханта-Мансійскага нацыянальнага вокругу ў 1986 г. Каля кінутага хантамі чума я пабачыў безьліч парожніх пляшачак «чыкалону» (адэкалёну), выпітых хантамі (гарэлка ў той гарбачоўскі год на Поўначы была вялікім дэфіцытам), паставіў, колькі памесьцілася тых пляшачак на пень ды сфатаграфаваў. А на ніжнім здымку — складзеная з жэрдкаў драўляная аснова таго кінутага чума. Яна звонку завешваецца аленевымі шкурамі.*

**А.М.**

# ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

Наш чытач, сп. Валеры Ядранцаў з Чэрыкава, папрасіў нас у лісьце расказаць, што такое правы чалавека, пра якія гэтак шмат пішацца сёньня ў апазыцыйнай беларускай прэсе. Што-ж, сапраўды, гэтая тэма для Беларусі цяпер надзвычай актуальная. На запытаньне сп. В. Ядранцава адказвае вядомы беларускі публіцыст з Англіі Юры Весялкоўскі:

Чалавек змагаецца за свае правы, свабоду так доўга, як гэта памятала й запісала гісторыя. Свабода для людзей заўсёды была й застаецца найбольшым іхным шчасьцем. Таму кіраўнікі некаторых дзяржаваў стараліся ўлажыць правы для сваіх грамадзянаў, каб захаваць стабільнасьць. Адным з такіх раньніх збораў правоў, збор Бабілёніі караля Гамурабі (1750 г. д. н. э.), захаваўся да нашага часу.

Даволі вядомае й папулярнае зьяўляецца Рымскае Права, каторае паслужыла за аснову для ўкладаньня пісаных правоў шмат якім краінам Заходняй Эўропы. Рымскае Права бярэ свой пачатак з паловы V ст. д. н. э., але яго ўпарадкаваў і пашырыў імпэратар Юстыян I у 528-33 гг. Рымскае Права прыняло назоў «Корпус Юрыс Цывіліс» і яно заслугоўвае на сваю асаблівую ўвагу тым, што ў ім перадусім клаўся прынцып справядлівасьці й талеранцыі.

Чулі мы й пра гэтак званую «Магна Карта», у якой ангельскія духаўнікі й мяшчане дамагаліся ад караля Яна ў 1525 г. свабоды для царквы й справядлівасьці суда. З часам «Магна Карта» дапаўнялася кляўзулямі й сталася Вялікай Хартыяй Свабодаў –яна пераўтварылася ў канстытуцыю, якая абмяжоўвала ўладу манарха.

У пару Вялікага княства Літоўскага на ўвагу заслугоўвае «Судзебнік» Вялікага князя Казімера 1468 г. Гэта быў першы крымінальны кодэкс пісаны беларускай мовай. Працягам ягоным сталіся тры «Статуты Вялікага княства Літоўскага», выдадзеныя ў 1529, 1566 і 1588 гг. Гэта быў збор законаў, якога ня мелі нашыя суседзі, палякі й расейцы, і праз даўжэйшы час ім карысталіся літоўцы, украінцы й расейцы. З нагоды выданьня Статуту 1588 г. ягоны аўтар, канцлер Леў Сапега, пісаў: «Прашу зрабіць ласку ўдзячна прыняць ад мяне гэтую працу, а, маючы свае вольнасьці добра захаванымі, сачыць, каб у суды й трыбуналы выбіраліся людзі ня толькі дасьведчаныя й добрыя, але набожныя й дабрадзейныя, якія-б не для ўласнай выгады й на шкоду чалавеку праз сваю хцівасьць і за хабар законы парушалі, – а выключна прадугледжаным парадкам дзейнічалі, зьберагаючы сьвятую праўду й справядлівасьць, а свабоду, якой карыстаемся, у непарушнасьці захавалі».

Прайшлі гады й стагодзьдзі, але, на вялікі жаль, ўсімі гэтымі правамі на свабоду, на чалавечую годнасьць мала калі хто карыстаўся й да іх прыслухоўваўся. Быў час, калі людзьмі гандлявалі, як быдлам, і трымалі нявольнікамі-рабамі. У Дэклярацыі Незалежнасьці Амэрыкі, выдадзенай 4 ліпеня 1776 г., чытаем: «... усе людзі створаныя роўнымі; ...надзеленыя Тварцом натуральнымі непазьбежнымі правамі, сярод каторых ёсьць права на жыцьцё, права на свабоду й права на імкненьне да шчасьця». Але гэтае «права на свабоду й шчасьце» з утварэньнем ЗША ня зьдзейсьнілася для нэграў. Свабоду яны атрымалі значна пазьней.

Як даўно йснуе сьвет, так даўно назіраецца прыгнёт слабейшага мацнейшым у жыцьці нацыянальным, рэлігійным, эканамічным. Каб пазьбегчы такой несправядлівасьці на сьвеце, у часе апошняй вайны прэзыдэнт ЗША Рузвэльт і прэм'ер Вялікабрытаніі Чэрчыль падпісалі 12 жніўня 1941 г. гэтак званую Атлянтычную Карту Будучай Палітыкі. Яе падпісаў і савецкі амбасадар у Лёндане Іван Майскі, каторы ў сваёй прамове ад 27 верасьня 1941 г. зазначыў, што «Савецкі Саюз абараняе права ўсталяваць такі агульны лад і выбраць такую форму ўраду, якая спрыяла-б разьвіцьцю і ўзбагачэньню эканомікі й культуры». Якія былі «лад», «форма ўраду» й «культура» ў СССР мы добра знаем і бачылі ўсё гэта перад вайной, падчас вайны й пасьля яе. Савецкі Саюз быў у ладзе-згодзе з аліянтамі датуль, пакуль ішла вайна й аліянты дапамагалі яму мілітарна й гаспадарча. А як скончылася вайна, дык скончылася й сяброўства, распачалася «халодная вайна».

Усё-ж, дзеля каардынацыі міжнародных дачыненьняў па вайне ўдалося стварыць важную міжнародную інстытуцыю – Арганізацыю Аб'еднаных Нацыяў. Адной з заснавальнікаў ААН была й Беларусь. Калі раней у міжнародных дачыненьнях закраналіся выключна справы, што тычыліся палітыкі, дзяржаўных межаў, войнаў і пад., дык захадамі ААН было ўзьнятае пытаньне Правоў Чалавека, каторыя ў шматлікіх краінах сьвету, а асабліва ў камуністычных, былі моцна абмяжаваныя й адкрыта парушаліся. 10 сьнежня 1948 г. на Генэральнай асамблеі ААН у Парыжы спн. Элінора Рузвэльт, што была тады старшынёй камісіі ААН па правах чалавека, сказала: «Сёньня мы стаім на парозе вялікіх падзеяў як у жыцьці ААН, гэтак і ў жыцьці чалавека, – на парозе ўстанаўленьня Генэральнай асамблеяй «Унівэрсальнай Дэклярацыі Правоў Чалавека»». Тады-ж Дэклярацыя была прыйнятая і ААН зьвярнулася да ўрадаў усіх краінаў, каб яны апублікавалі ейны тэкст і як мага шырэй распаўсюдзілі сярод сваіх грамадзянаў.

Аднак было зразумела, што пытаньне правоў чалавека ня пойдзе так лёгка ў камуністычных краінах. Камуністы прапаноўвалі ўвесьці ў Дэклярацыю марксісцкія ідэі, заходнія дэмакраты – хрысьціянскія. Напрацягу двух гадоў работы камісіі было ўнесена сотні й тысячы розных паправак, фармулёвак, над якімі было больш за тысячу галасаваньняў. Пасьля гэтай карпатлівай працы быў прыняты першы артыкул Дэклярацыі, у якім гаворыцца: «Усе людзі родзяцца свабоднымі й роўнымі ў сваёй годнасьці й сваіх правох. Яны надзеленыя розумам і сумленьнем і павінныя ў адносінах адно да аднога паводзіцца дружалюбна і ў духу братэрства». На падставе першага арты-



*Гамурабі перад Богам Шамашам. Рэльеф са стэлы з законамі Гамурабі*

кулу былі ўкладзеныя й наступныя 30. У 19-ым артыкуле сказана: «Кожны чалавек мае права на свабоду меркаваньня й яго выказваньня; права гэтае палягае на свабодзе мець незалежную думку, пошук, на свабодзе атрымманьня й распаўсюджаньня інфармацыі й пагляд[аў] шляхам кожных СМІ без увагі на дзяржаўныя межы».

«Унівэрсальная Дэклярацыю Правоў Чалавека» павінная была-б захоўвацца й выконвацца ўсімі краінамі, каторыя яе падпісвалі. Аднак ейныя артыкулы й дагэтуль парушаюцца ў некаторых, асабліва посткамуністычных краінах. Яшчэ й цяпер чуюцца патрабаваньні перагледзець Дэклярацыю, унесьці ў яе папраўкі. На што былі генэральны сакратар ААН Кофі Аннан сказаў «... як ня трэба перапісваць Біблію ці Каран, так ня трэба выпраўляць і Дэклярацыю». ААН абвесьціла 1995 – 2005 гг. «Дзесяцігодзьдзем асьветы ў галіне правоў чалавека». Ды ўсё адно ў шмат якіх краінах пастановы Дэклярацыі не выконваюцца і ў ейныя міжнародныя прадстаўніцтвы сьцякаюцца нараканьні з усяго сьвету з просьбай аказаць дапамогу ў абароне правоў чалавека й вязьняў сумленьня.

Сёньня на сьвеце налічваецца 13 краінаў, дзе перасьледуюцца правы чалавека, і да іх прымаюцца адпаведныя санкцыі. З сумам хачу адзначыць, што сярод гэтых дыктатарскіх краінаў фігуруе й Беларусь, дзе грамадзяне пазбаўленыя элемэнтарных свабодаў. У Беларусі перасьледуецца незалежная прэса, лідары апазыцыйных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў, ачольнікі свабодных прафсаюзаў. Робіццаператрусы ў вофісах праваабарончых арганізацыяў. Апазыцыю не дапушчаюць да электронных СМІ. Ідзе наступ на беларускую культуру, якую мае заступіць расейская, а Беларусь мае стацца расейскай правінцыяй. І што жахліва, у Беларусі зьнікаюць бязь весьці або гінуць пры загадкавых абставінах здольныя й актыўныя апазыцыянэры, каторыя адкрыта выступаюць супраць дыктатуры. У такім сёньня становішчы знаходзіцца Беларусь, дзе нялюдзкая ўлада робіць чалавека нявольнікам.

Дзьве тысячы гадоў таму вядомы рымскі заканадаўца й аратар Цыцэрон сказаў: «Мір прыгожы ў кожнай форме, але паміж мірам і нявольніцтвам вялікая розьніца. Мір – гэта свабода, нічым неабмяжаваная, а нявольніцтва – гэта найвялікшая згуба, супраць якой трэба змагацца ўсімі сіламі й да самай сьмерці».

**Юры Весялкоўскі**

## УСЕБЕЛАРУСКАМУ ЗЬЕЗДУ

***Паважаныя ўдзельнікі й госьці Ўсебеларускага зьезду!***

*Дзесяць гадоў таму назад Вярхоўны Савет на сваім паседжаньні прыняў Дэклярацыю аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі. Потым Дэклярацыі была нададзеная сіла Закону, а ў сьнежні 1991 году кіраўнікамі трох рэспублікаў (Беларусі, Расеі і Ўкраіны) было падпісанае Пагадненьне аб стварэньні СНД, якое паставіло апошнюю кропку ў існаваньні Савецкага Саюзу. Беларусь сталася сувэрэннай незалежнай дзяржавай. У якасьці дзяржаўнай Рэспубліцы была зноў вернутая нацыянальная сымболіка – Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і герб "Пагоня".*

*Усё гэта стала лягічным працягам барацьбы беларускага народу за адраджэньне сваёй дзяржаўнай незалежнасьці, аб неабходнасьці якой было заяўлена ўжо на Ўсебеларускім зьезьдзе ў сьнежні 1917 году. На жаль, загадам прарасейскага бальшавіцкага кіраўніцтва Савета Народных Камісараў Заходняй вобласьці й фронту той зьезд быў разагнаны салдацкімі штыхамі й прыкладамі.*

*Але воля беларускага народу была непахісная на вызначэньне нeад'емнага права мець сваю дзяржаўнасьць. І першым практычным крокам у гэтым накірунку было стварэньне вясною 1918 году Беларускай Народнай Рэспублікі ды абвешчаньне яе незалежнай і свабоднай дзяржавай.*

*Але сёньня зноў, як і напачатку XX стагодзьдзя, над Беларусьсю навісла пагроза страты дзяржаўнага сувэрэнітэту й незалежнасьці. Пануючы зараз у Беларусі прарасейскі нелігітымны дыктатарскі рэжым паставіў нашую краіну ў значную эканамічную ды палітычную залежнасьць ад Расеі й праводзіць актыўную работу па далучэньні Беларусі да Расейскай Фэдэрацыі, што зьяўляецца процілегаказаным эўрапейскаму менталітэту беларускага народу й груба парушае Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. І таму правядзеньне Ўсебеларускага зьезду, на якім будзе разгледжанае пытаньне аб дзяржаўным сувэрэнітэце Рэспублікі Беларусь, зьяўляецца ў вышэйшай ступені актуальным і своечасовым. У гэтай сувязі Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь прыняў рашэньне аб удзеле дэпутатаў ва ўказаным форуме.*

*Жадаю Ўсебеларускаму зьезду плённай працы й прыняцьця рашэньняў, якія выкажуць волю нашага народу й будуць садзейнічаць умацаваньню дзяржаўнага сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь, што зьяўляецца ня толькі неад'емным правам, але й вышэйшай сьвятой каштоўнасьцю кожнага народу.*

*Няхай жыве незалежная, вольная Беларусь, якой яе абвесьцілі Рада БНР 25 сакавіка 1918 году й Дэклярацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі 1990 году, і што замацавала Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь ў сакавіку 1994 году!*

*Старшыня Вярхоўнага Савету РБ* **Сямён Шарэцкі**



## У Браслаўскім гісторыка-краязнаўчым музэі

яшчэ ў 1990 г. створаны невялікі мэмарыяльны куток, прысьвечаны нашаму земляку, выдатнаму жывапісцу й графіку Пётру Сергіевічу. У экспазыцыі кутка – асабістыя рэчы, рысункі, партрэты, эцюды мастака. Пра гэта нагадвае нам у сваім лісьце наш чытач з Браслава **Кастусь Шыдлоўскі** з нагоды 100-годзьдзя з дня нараджэньня Пётры Сергіевіча.

## Пячатка Ўсяслава

так называецца гістарычны артыкул **Міхася Белямука** з Амэрыкі,



надрукаваны ў «Беларускім Дайджэсьце» (N6/2000). У артыкуле аўтар пераканаўча даводзіць, што адна зь пячатак, якая дагэтуль лічыцца пячаткай кіеўскага князя Ізяслава Яраславіча, у сапраўднасьці належыла полацкаму князю Ўсяславу Брачыславічу (Чарадзею).

## Мы ў Аўстраліі

выбіраем паводле дэмакратычных законаў у вольных выбарах прэм'ераў штатаў і прэм'ер-міністра нашага краю. А Лукашэнка, які прэ памылку гісторыі выйграў прэзыдэнцкія выбары, ня хоча цяпер з гэтага становішча адыйсьці. Сама думка падказвае, што трэба дапамагчы, каб ён адыйшоў. Хто нам дасьць вольную Беларусь, калі мы самі ня будзем змагацца за ейную вольнасьць? Ужо ўсе савецкія сыходзяць памалу ў занядпад. Іхняя ідэалёгія, насякнутая крывёю мільёнаў нявінных ахвяраў, не здала экзамену. Лукашэнка й ягоныя памагатыя ўжо належаць да астатняй рэшты з адыходзячай эпохі. Іхняе панаваньне – гэта толькі кваэсьція часу.

**Ян Барысевіч**
*Мэльбурн*

## Помнік Вітаўту Вялікаму

выцесаны з дубу мастаком Ужкурнісам, пастаўлены каля Гарадзенскага замку. Тут 15 ліпеня зьбіраюцца штогод прадстаўнікі тых нацыянальнасьцяў, продкі якіх прымалі ўдзел у Грунвальдзкай бітве. Зьбіраюцца, каб адзначыць чарговыя ўгодкі гэтай лёсаноснай для беларускага, польскага, літоўскага ды ўкраінскага народаў гістарычнай падзеі. Сёлетнія ўрачыстасьці пачаліся імшою ў касьцёле Сьв. Брыгіты, дзе сьпяваліся й літоўскія песьні. Пасьля імшы ўдзельнікі імпрэзы правялі мітынг пад помнікам Вітаўту. Аляксандар Міхальчык, кіраўнік абласнога аддзелу БНФ, сказаў: «Нашая Грунвальдзкая бітва яшчэ адбудзецца, і мы пераможам!» Пра важнае гістарычнае значэньне славутай бітвы казалі іншыя прамоўцы. Пасьля чаго да помніка былі ўскладзеныя кветкі.

**Станіслава Кіселявене**
*Вільня*

## Я не прыхільнік

сёньняшніх беларускіх уладаў на чале з Аляксандрам Лукашэнкам. Але часам задаюся пытаньнем, якім шляхам пайшла -б Беларусь, каб прэзыдэнцкія гонкі выйграў тав. Кебіч? (Сп. Пазьняк, як мне здаецца, падчас тых выбараў быў фігурай заўчаснай). Лічу, што калі-б выбары 94-га выйграў Кебіч, дык ён і ягоны ўрад даўным-даўно, бязь лішняга шуму, здалі-б Беларусь Расеі. У Аляксандра Рыгоравіча гэта не атрымалася так хутка толькі таму, што ў яго была надта-ж вялікая цана продажу Беларусі дый паводзіны непрадказальныя. Ці ня дзякуючы гэтаму мы маем сёньня хоць якую незалежнасьць? А можа й жорсткае стаўленьне нашага айчыннага дыктатара да ўсяго нацыянальнага абудзіла ў нашым народзе, самым дэнацыяналізаваным сярод былых савецкіх народаў, нацыяналізм і дух супраціву? Мне здаецца, што Беларусь у сфэры абуджэньня нацыянальнай сьвядомасьці мае ў апошнія гады больш прагрэс, чым калі-б намі кіраваў Кебіч або нават Шушкевіч, і тут дзейнічае "мэтад ад супрацьлеглага", "эфэкт спружыны". Цікава таксама, што будзе, калі раптам Бацька пачне беларусізацыю? Кажуць, што калі ён нядаўна чытаў свае даклады па-беларуску, расчуленыя вясковыя людзі плакалі.

**Мікалай Прыходзька**
*Горкі*

## Выйшла з друку

чарговая публікатка з сэрыі «Партрэты віленчукоў» «Пётра Сергіевіч». Публікатка прысьвечаная 100-гадоваму юбілею Пётры Сергіевіча й выдадзеная на сродкі Згуртаваньня беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у Літве.




***Выдавецтва беларусаў Літвы «Рунь»***



*ПРЫСТОЛЬНАЕ СЬВЯТА БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКІФАЛЬНАЙ ЦАРКВЫ ПЕРШАВЯРХОЎНЫХ АПОСТАЛАЎ ПЯТРА І ПАЎЛА. СТАРШЫНЯ ПАРАФІЯЛЬНАГА КАМІТЭТУ ВАСІЛЬ ЯНОВІЧ ДОРЫЦЬ КВЕТКІ АЙЦУ МІТРАФОРНАМУ ПРАТАЯРЭЮ ПЯТРУ КАСАЦКАМУ. ЗДЫМАК ДАСЛАЎ* ***УЛАДЗІМІР АКАВІТЫ*** *З АДЭЛЯІДЫ (АЎСТРАЛІЯ) 18.07.2000*

## Паводле прагнозаў спэцыялістаў

пры захаваньні сёньняшніх дэмаграфічных тэндэнцыяў праз 40-50 гадоў у сельскай мяйсцовасьці ўвогуле не застанецца працаздольнага насельніцтва, а насельніцтва Беларусі можа скараціцца праз 50 гадоў практычна ўдвая.

***Газэта «Звязда»***

**Алег Аблажэй**

# Эдэна, дачка Дня й Ночы

*Крыстыне, дачцэ сьвятла*

*Заканчэньне. Пачатак у N32*

Аднак пэўнага разу якісь залацісты бляск разсьвяціў поле бітвы, і бойка зрабілася не такой зацятай, і заўважыла Эдэна, што аднекуль з-пад небакраю займаецца ружова-залацістае сьвятло, і ў тым сьвятле ўзьнік малойчык у залацістым убраньні. І быў ён такі пекны, што Эдэна не магла адвесьці ад яго вачэй. Ня меў ён ніякае зброі, а аднак-жа праменіла ад яго якаясь дзіўная, незвычайная моц, ад якой замёрлі нерухома як белыя, гэтак і чорныя рыцары.

Наблізіўся паволі таямнічы рыцар да палацу, конь ягоны, не датыкаючыся зямлі капытамі, імчаў проста ў паветры. Вочы рыцара спаткаліся з вачыма Эдэны, і ўсьміхнуўся ён да яе — і паімчаў далей...

Доўга яшчэ сядзела Эдэна нерухома, а перад еймымі вачыма стаяла аблічча рыцара ў залацістым убраньні. І не адразу ўсьвядоміла, што ў самай сярэдзіне палацу зьявілася малюткая кветачка нейкай расьліны, а за вокнамі палацу з аднаго боку паўстаў гай зь белых дрэваў, а з другога вырасла мноства чорных дубоў. А гэта, бач, белыя й чорныя рыцары перакінуліся ў дрэвы пад уплывам чарадзейнай моцы таямнічага вершніка ў залацістым убраньні.

І ад той пары суціхла бітва пад мурамі крышталёвага палацу, а замест зноў і зноў зьяўляўся рыцар на белым кані, набліжаўся да палацу, аднак ніколі не затрымліваўся даўжэй каля яго. А кветачка ў сярэдзіне палацу стала цудоўнай кветкай, заняўшы, напраўдзе, увесь крышталёвы палац.

Той таямнічы малойчык быў Рыцарам Ранку, аднак у сярэдзіну палацу могло пранікнуць толькі ягонае зьзяньне, а сам ён заставаўся вонкі. І ўсьмешка ягоная з той прычыны рабілася штораз сумнейшая. Але-ж не было для Эдэны нічога мілейшага на сьвеце, чым тая лагодная ўсьмешка. І цяпер яна ўбіралася ня ў чорна-белыя, а толькі ў найлепшыя залатыя строі, дый валасам сваім надала залацістае адценьне.

Тымчасам шампрэньне дубровы й гнеўны шолах беладрэўнага гаю рабіліся ўсё больш мацнейшыя. Часам здавалася, што хочаць яны вырвацца з карэньнем зь зямлі ды рынуць на Рыцара Ранку —аднак толькі іхныя галіны трэсьліся і ўгіналіся. А кветка ў сярэдзіне палацу запоўніла ўжо сабой усю прастору, не пакінуўшы ніводнага вольнага мейсца, і цяпер толькі крышталёвыя муры стрымлівалі ейнае далейшае разрастаньне.

Аднойчы чорная дуброва й беладрэўны гай усхадзіліся не на жарты, хаця-ж не было відаць ані рыцара ў залацістым убраньні, ані нават залаціста-ружовага зьзяньня. І невядома было, ці-то навальніца патрасае галіны дрэваў, ці-то, наадварот, магутныя галіны сваім трымценьнем выклікаюць навальніцу. І гэтая навальніца набірала моцы — ніколі дагэтуль Эдэна ня бачыла нічога падобнага. Агаломшаная сачыла, як згінаюцца магутныя дрэвы, аж вылазяць з-пад зямлі іхнія карані. І раптам вырваўся самы магутны дуб, узьвіўся ў паветра й з размаху шыбануў у левы мур палацу, у правы-ж грымнула белае дрэва. Аднак муры палацу вытрымалі ўдары, толькі задрыжэў увесь палац ды жальліва затрымцелі шыбы.

Здранцьвелая ад страху сачыла Эдэна, як адно за адным дрэвы, ламаючы гольле, перылі ў сьцены палацу. Штораз здавалася ёй, што гэты удар будзе апошні. У роспачы думала пра рыцара ў залацістым убраньні, каторы адзіны мог адбіць гэты жахлівы напад, ды не было відаць нават найслабшага зьзяньня, якое весьціла-б пра ягонае прыйсьце.

Але вось апошняе дрэва безвынікова раструшчылася аб мур палацу. Страшлівым было відовішча вывараченых, паламаных і патрушчаных камлёў, галінаў і карэньняў, аднак усё сьціхла і ўжо не пагражала крышталёваму палацу. І тут, замест каб суцешыцца, раптам падумала Эдэна, што калі магутныя дубы ня здолелі разбурыць муры ейнага палацу, дык і рыцар у залацістым убраньні, напэўна, ніколі гэтага ня здолее. А гэта азначае, што яны заўсёды будуць разлучаныя. І ўпершыню Эдэна падумала пра палац, які хвілю перад тым бараніў ейнае жыцьцё, як пра вязьніцу.

А дзівосная кветка, якая ўжо ня мела куды расьці, абвіла сваімі гнуткімі галінамі ўсю постаць Эдэны, аж не магла яна зварухнуцца, іншыя-ж галіны шукалі вольнага мейсца ў палацы —ды марна. І вось нарэшце зьзяньне за небакраем абвесьціла, што набліжаецца рыцар у залацістым убраньні. І як заўсёды, паволі, урачыста пад'ехаў ён на сваім кані, што ляцеў, не датыкаючыся капытамі зямлі, да палацу. Сумнай была ягоная ўсьмешка —можа шкадаваў, што не было яго падчас бітвы, а можа разумеў, што зноў не пранікне ў палац, а будзе змушаны пранесьціся міма.

Аднак у той самы момант, калі Рыцар Ранку быў ужо ля самых мураў, калі аддзяляла яго ад Эдэны толькі крышталёвае шкло, адчула дачка Дня й Ночы, як з нязвыклай сілай напружыліся галіны, абвіваючы ейнае цела, і з такой моцай, што трэснула крышталёвае шкло, і яна, абсыпаная кветкамі, упала проста на рукі свайго каханага. І яны паімчалі, ужо разам, на кані, лятучым над зямлёю, прытуленыя адно да аднога і маўклівыя, бо праўдзівае каханьне не патрабуе словаў.

І, гавораць, што й цяпер, калі абудзіцца на золку, можна ўбачыць Рыцара Ранку, які імчыць на сваім кані з дачкою Дня й Ночы ў абдымках...



Малюнак Алега Аблажэя

# Як абараніцца ад махляроў

## 2. «Божы дзьмухавец»

«Маладая, прыстойная сям'я возьме на поўнае ўтрыманьне старога чалавека й забясьпечыць яму годную старасьць з мэтай атрыманьня ў спадчыну жытла». Гэткія аб'явы можна нярэдка знайсьці ў кожных рэклямных газэтах у кожных краінах сьвету. Няцяжка здагадацца, як хутка скончыцца «годная старасьць» гаспадара кватэры пасьля таго, як будуць залагоджаныя дакументы на атрыманьне ў спадчыну ягонага жытла.

Аднак сярод вышэйпададзеных аб'яваў часам трапляюцца й гэткія: «Стары, адзінокі, хворы чалавек аддасьць у спадчыну кватэру таму, хто возьме клопат пра ягоную старасьць». Менавіта пра давальшчыкаў падобных абвестак мы сёньня й пагаворым.

З усіх шукальнікаў дармовага жытла састарэлы гаспадар кватэры абярэ самую, на ягоны погляд, прыстойную й лагодную сям'ю. Прыехаўшай на сустрэчу маладой сям'і дзьверы кватэры адчыніць сьмяротна хворая бабуля, якая адной нагою стаіць у магіле. Яна доўга будзе распавядаць пра свой трагічны лёс, пра мноства невылечных хваробаў, подлых сваякоў, каторыя пакінулі яе адну й нават не прыходзяць справіцца пра ейнае здароўе ўжо некалькі гадоў. Пэнсіі стае толькі на тое, каб аплаціць кватэру (і тую затрымліваюць), а тут яшчэ патрэбныя дарагія лекі...

Гэтак, знайшоўшы ўзаемаразуменьне, бабуля згаджаецца прыняць у сябе ў кватэры маладую сям'ю. Аднак, спасылаючыся на плойму махляроў, каторыя толькі й мараць адабраць у даверлівых бабуляў і дзядуляў іхнюю нерухомасьць, яна не сьпяшае залагоджваць дакументы на спадчыну.

Спачатку ўсё йдзе цудоўна. Муж бегае за прадуктамі й лекамі, жонка корміць й абсьцірвае бабулю. Нават выконваюцца ўсе бабуліны «маленькія прыхамаці», пачынаючы ад наведаваньня недарагіх кавярняў і сканчваючы паездкамі па родных і «сьвятых» мясьцінах з мэтай «разьвітацца». Часам маладыя зь цяжкасьцю стрымліваюць сваю незадаволенасьць. Аднак чаго ня зробіш дзеля жаданай кватэры! Вось толькі бабуля штодня робіцца ўсё капрызьнейшая. І гэта ня тое, і тое ня так!

Тымчасам бабуліны запросы няўхільна растуць. Патрабаваньні да новых кватэрантаў таксама павышаюцца, а ўзаемадачыненьні робяцца ўсё горшыя. «Хворае й нямоглае стварэньне» ператвараецца незаўважна ў злоснага прыдзірлівага монстра, які адкрыта тэрарызуе маладых. Калі адносіны зусім псуюцца, бабуля з трэскам выстаўляе маладых на вуліцу...

Што-ж, у такім выпадку можна пашкадаваць якраз маладых, а не «Божага дзьмухаўца», які на некаторым часе зноў дасьць абвестку: «Стары, адзінокі, хворы чалавек аддасьць у спадчыну...» Я нават ведаю адну такую бабулю, якая, не пускаючы да сябе жыльцоў на сталае жыхарства, адначасна вадзіла вакол пальца ажно чатыры сям'і, якія зьбіліся з ног, выконваючы ейныя капрызы. Цяпер у дачыненьні да яе ўзбуджаная крымінальная справа. Высьветлілася, што яна 8 гадоў жыла за чужы рахунак. Махлярку чакае турма, і, магчыма, канец ейнага жыцьця надыйдзе менавіта там.

**Сямён Махлярэнка**


### Умовы падпіскі

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю імянны чэк сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$20**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак:

*Please pay to Vilniaus Bankas AB, Vilnius, SWIFT: CBVI LT 2X, at Bankers Trust Company, New York, SWIFT: BKTR US 33, for further credit to VVIC «Demokratija Baltarusijai», account no. 9175/512*

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (*т: 61 62 24*) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год –**12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі** й **краінах СНГ** паведамляем адрас для перасылкі грошаў у Менску: *Кірыл Ігнацік, Сьвердлава 22-41, 220050 Менск.* Кошт падпіскі на год: у Беларусі – сума ў беларускіх рублях эквівалентная **$3**, у краінах СНГ – сума ў нацыянальнай валюце эквівалентная **$ 5**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас у Беластоку: *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16-006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых эквівалентная **$8**.


*Адрас для допісаў:*
***«Рунь»***
***2001 Vilnius, a/d 1021 Lithuania***
*e-mail:* ***nicka@takas.lt***

**Ахвяраваньні на газэту:**

| | |
|---|---|
| **К. Акула** з Канады | $ (20+30) |
| **В. Станкевіч** з Амэрыкі | $ 20 |
| **М. Антух** з Аўстраліі | 100 AUD |
| **В. Махнач** з Амэрыкі | $ 20 |
| **Ю. Весялкоўскі** з Англіі | $ 20 |



РУНЬ газэта беларусаў Літвы
заснавальнік
**Таварыства беларускай культуры ў Літве**
выдаўцы
**Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя дзеля Беларусі»**
адрас рэдакцыі
*A. Jakšto, 9-106, 2600 Vilnius, Lithuania*
тэлефон: *(+ 370 2) 62 55 71*
факс: *(+ 370 2) 42 38 02*
e-mail: *nicka@takas.lt*
**Алег Мінкін** — рэдактар
**Павал Саўчанка** — сакратар
**Алег Аблажэй** — мастацкі аддзел
**Сяргей Вітушка** — аддзел гісторыі
**Алесь Трусаў** — рэкляма й распаўсюджаньне
друк UAB Adomo Jaksto spaustuve
наклад 1000
*ISNN* **1392-7671**